

# Ніва



ГОД I № 22 БЕЛАСТОК. 29 ЛІПЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

Андрэй Сошка

## Жнея

Ой у полі жытка жала,
Вязала ў снапочкі.
Старалася, гаравала,
Аж да цёмнай ночкі.

Не раз вочы заплывалі
Горкімі слязамі.
Аканомы паганялі
Крыкам і кіямі.

Ішлі годы маладыя,
Цвілі васілёчкі...
Працавала ў полі жнея
Пот сплываў з сарочкі.

Сонца апякала плечы,
Кашляла крывёю...
Аж прышоў дзень чалавечы
І вызваліў жнею.

Усё на свеце, адмянілась,
Усё павесялела.
Жытка ў полі зноў даспела,
Жнея пасівела.

Глядзіць старчымі вачыма,
Слёзы выцірае, —
Жыта ў полі жне машына,
Вяжа, падбірае.

За рулём сядзіць дзяўчына,
Трэпяціць сарочка.
Заглядзелася бабіна.
Пэўна, яе дочка.

— А чаго-ж ты, мама, плачаш,
Стоячы ў полі?
— Думаю — хто перайначыў
Мужыцкую долю?!

І нагнулася бабуля,
Узяла жытка жменю.
Каласы да рота туліць
Дочка кажа: — „Ленін".

„Ён змяніў усё на свеце,
Мама дарагая."
Маладзенькі дуе вецер,
Зямля расцвітае.

Абняла сваю матулю
Трактарыстка Насця.
Плачуць гледзячы ў поле.
Плывуць слёзы шчасця!



Жніва. Фота — Ю. Лясоцкі

Г. Матэйчык

## Было гэта ў Крупіцах

*30 ліпеня 1920 года ў Беластоку быў створан першы ўрад рабочых і сялян — Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы (ТКРП) Сарганізавалі яго перадавыя дзеячы рабочага класа: Юльян Мархлеўскі, Фелікс Дзяржынскі, Фелікс Кон, Эдуард Прухняк і іншыя. Часовы Рэвалюцыйны Камітэт карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод сялян і работнікаў. Арганізаваў ён Сялянскія Рады ў якіх асабліва актыўна ўдзельнічалі сяляне — беларусы ў Гайнаўскім і Семятыцкім паветах.* РЭДАКЦЫЯ

Калі ў канцы ліпеня 1920 года Чырвоная Армія вызваліла Беласточчыну з-пад панавання паноў на чале з Пілсудскім — сяляне ў Крупіцах, Мельніку, Мілейчыцах зразумелі, што менавіта наступіў адпаведны час дзейнічаць і актыўна змагацца за новы, соцыялістычны лад.

Перш у Крупіцах, а потым і ў іншых мясцовасцях сяляне захадзілі вакол сваёй справы і пачалі ўтвараць Сялянскія Рады.

Зрэшты ў Крупіцах існавалі ўжо традыцыі народнай улады. А з Расіі штораз часцей даходзілі весці аб тым, як там на руінах царызма рабочыя і сяляне будуюць сваю дзяржаву без капіталістаў і памешчыкаў. Сяляне з Крупіц зразумелі, што і ў іх ужо настаў час прыняць удзел у барацьбе за новае жыццё. Восенню 1918 г. з Совецкай Расіі вярнулася многа бежанцаў. Расказвалі яны, як гэта там рускія рабочыя і сяляне гаспадарацъ без буржуяў. Крупіцкія сяляне вырашылі стварыць у сябе орган народнай улады — Сялянскую Раду.

Польскія капіталісты і памешчыкі на чале з графам Цецерскім з Боцек і баронам Вульфертам з-пад Боцек, і іншымі панамі, пачалі неадкладна арганізаваць буржуазную ўладу. У Семятычах сарганізавана атрад жандармерыі, каб лягчэй было падпарадкаваць па новаму думаючых рабочых і сялян Жандары вербаваныя пераважна сярод кулацкіх сынкоў і рознай шумавіны, ды падонкаў грамадства, пачалі штораз болей тэрарызаваць насельніцтва. Часта адбываліся ў вёсках рэвізіі, нібы ў пошуках зброі ў час якіх часта знікалі сялянскія рэчы, рэквізавана фурманкі прыбываючых у Семятычы сялян і прымушвана вазіць жандараў па ўсёй гміне. Здаралася нават так, як гэта было з Савіцкім з Крупіц, які прыехаў у Семятычы за доктарам да хворай жонкі і дзяцей. Жандары не зважаючы на яго тлумачэнні прымусілі вазіць сябе праз цэлыя суткі па вёсках гміны. Тым часам хворая жонка і дзеці засталіся без медыцынскай апекі.

Крупічаны склікалі нараду ў выніку якой была створана Сялянская Рада і група самаабароны. Дагэтуль жандары не вельмі адважваліся паказвацца ў Крупіцах. Але памешчыкі адразу адчулі, што такія Рады, асабліва калі іх створаць ва ўсіх вёсках, абазначае канец іх улады. Пастанавілі не гледзячы на нішто, разбіць Крупіцкую Раду, бо па прыкладу Крупіц ішлі вёскі гміны Мельнік і Мілейчыцы.

Не маглі аднак выступіць адкрыта, бо баяліся сялян Зрабілі гэта ноччу, (у ноч з 31 снежня на 1 студзеня 1919 г.) і арыштавалі некалькіх членаў Рады — Сітарскага, Савіцкага, Матэйчука і інш. У вёсцы ўзняўся шум. У гэтую самую ноч, зараз пасля арыштаў, ад вёскі да вёскі пайшлі маладзёжныя эстафеты, якія паведамлялі сялян аб арыштах. У выніку гэтага на Новы Год у Семятычы прыбыла звыш 3.000 сялян з усіх вёсак Семятыцкай гміны, а таксама і з бліжэйшых вёсак іншых гмін. Сяляне дамагаліся звольніць арыштаваных. Гэты паход сялян узначалілі рабочыя з заводаў Маліняка і Белькеса. Усе натоўпам пайшлі пад магістрат. Перапалоханы бурмістр быў вымушаны ўступіць. Заявіў, што арышты былі праведзены без яго ведама і вінаватыя гэтага будуць на-

Працяг на стар. 2

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

